© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013


# ПАГОНЯ

Чацвер
3 жніўня 2000 г.
№ 28 (475)
Кошт 70 рублёў


## За ласку адплаціла ізалятарам

**Жыхарка вёскі Абухава Гарадзенскага раёна Ш. ведала адназначна: яе дачка павінна вучыцца ў Гарадзенскім універсітэце. І хаця дзяўчына расце разумнай ды і ў атэстаце адзнакі неблагія, аднак розум у Беларусі не заўсёды вырашальны, таму маці вырашыла перастрахавацца.**

Выкладчык кафедры беларускай мовы дацэнт К., член прыёмнай камісіі ГрДзУ, таксама ведаў дакладна, што дачка грамадзянкі Ш. павінна вучыцца ў Гарадзенскім універсітэце. І хаця дзяўчына расце разумнай, без пэўнай дапамогі ў спісы студэнтаў можна і не патрапіць.

Дапамогу выкладчык ацаніў у 350 даляраў ЗША. Ці то сума для грамадзянкі Ш. аказалася непад'ёмнай, ці то адчула яна раптам паклíканне да барацьбы з хабарніцтвам, ці можа проста грошай стала шкада, аднак Ш. не стала аддзячываць выкладчыку, а пайшла проста ў міліцыю.

У нядзелю, пасля 18 гадзін увечары, ля галоўнага корпусу універсітэта, як і дамаўляліся, Ш. прынесла грошы. К., які і думаць не мог пра такую «свінню» спакойна ўзяў пакунак. Больш ён не здолеў зрабіць і крока - яго ўжо моцна трымалі супрацоўнікі міліцыі.

Цяпер К. сядзіць у ізалятары часовага ўтрымання і чакае заканчэння следства.

**Іван Паўлёнак**

## Фальшывыя грошы запаланілі Гродна

**Практычна штодзённа, пачынаючы з 20 ліпеня, у Гродне выяўляюць фальшывыя грашовыя купюры наміналам 5 мільёнаў беларускіх рублёў.**

За апошнія пяць дзён выяўлена 13 такіх падробак. Іх удавалася выявіць пры пераліку грашовай выручкі, што паступіла ў філіялы «Беларусбанка», «Аграпрамбанка», «Белпрамбудбанка» і «Белбізнесбанка». Толькі ў адзін дзень - 25 ліпеня - у Гродне выбрана з абароту чатыры такіх купюры і яшчэ некалькі - пры пераліку выручкі ў адным з магазінаў у Навагрудку. Ёсць падставы меркаваць, што збытам падробак у горадзе займаецца адзін і той жа чалавек або група пэўных людзей. Усе выяўленыя фальшыўкі наміналам 5 мільёнаў рублёў выраблены, як мяркуецца, метадам каляровага ксеракапіравання і маюць аднолькавы нумар.

Акрамя таго, за ліпень супрацоўнікамі міліцыі Гарадзеншчыны канфіскавана 1670 фальшывых даляраў, 100 нямецкіх марак і 105 тысяч беларускіх рублёў. Па фактах іх выяўлення ўзбуджана 35 крымінальных спраў.

Пакуль затрымаць людзей, якія займаюцца збытам фальшывак, не ўдаецца.

**Ася Куніцкая**

## Гімалайскі мядзведзь у Гродне не пладзіцца

**Гарадзенскі заапарк не здолее «папоўніць штат» сваіх гадаванцаў гімалайскім мядзведзем. Камітэт па ахове прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя забараніў набываць гэтую жывёлу для нашага заапарка.**

Прычына досыць трывіяльная. Эколагі палічылі, што ўтрымліваць мядзведзя ў маленькіх вальерах гарадзенскага заапарка будзе проста злачынствам.

Нягледзячы на няўдачу з мядзведзем, у адміністрацыі заапарка ўсё ж спадзяюцца на пашырэнне. Існуе дамова, якая яшчэ, праўда, патрабуе ўзгаднення на набыццё ў Маскве сякой-такой драбязі: серабрыстых фазанаў, в'етнамскіх свінак.

**Ул. інф.**




**4, 5 жніўня** - пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер заходні, 3-8 м/с. Тэмпература паветра **4, 5 жніўня** - уначы +10...+15, удзень +20...+25.

# Святара закавалі ў кайданкі



**Праваслаўны святар, рукі якога ссінелі ад зацісnutых кайданкаў -гэта частая карціна часоў антыдухоўнасці і атэізму савецкай улады. Аднак, падобныя карціны даўно сталі практыкай існуючага беларускага рэжыму. Настаяцель Свята-Ефрасіннеўскага прыхода Беларускай Праваслаўнай Народнай Царквы Ян Спасюк яшчэ доўга будзе ўзгадваць - «гэта былі дзеці сатаны». Але тое, што адбылося з ім у мінулую пятніцу здольнае шакаваць нават абыякавага да рэлігіі чалавека.**

Паводле словаў айца Яна Спасюка, у пятніцу з самае раніцы ён рыхтаваўся да службы ў царкве пасёлка Пагранічны Берастаўіцкага раёну. Дарэчы, пабудова ўласнага будынка царквы яшчэ толькі ў планах, таму ролю храма выконвае пакуль што вялікі вайсковы намёт.

Бліжэй да 9 гадзін раніцы, у храм увайшлі тры супрацоўнікі мясцовай міліцыі. Паводле словаў Спасюка, яны бесцырымонна, не здымаючы галаўных убораў, скіраваліся ў алтар і запатрабавалі спыніць набажэнства. Свой загад матывавалі тым, што прыход не зарэгістраваны. Менавіта ў гэтым і ёсць галоўная «правіна» Яна Спасюка...

...Калі Спасюк адмовіўся спыніць набажэнства, міліцыянты сунулі яму ў твар судовае рашэнне (паводле словаў святара, ён не паспеў яго прачытаць) і загадалі праехаць у міліцыю. Бацюшка сказаў, што зробіць гэта, але толькі ў прысутнасці прадстаўнікоў мясцовай улады. У адказ міліцыянты закавалі яго ў кайданкі і паспрабавалі выцягнуць на вуліцу.

З дапамогай жанчын-прыхаджанак Спасюку ўдалося літаральна адбіцца ад міліцыі, пры гэтым міліцыянты неадназарова кідалі яго на падлогу і, паводле ягоных словаў, разбілі алтар.

Святару ўдалося ўскочыць у машыну і скіравацца ў бок сваёй хаты. Раптам дарогу перагарадзіла міліцэйскі аўтамабіль, і незнаёмы палкоўнік міліцыі паспрабаваў «дастаць» бацюшку з машыны. Спрацавала сігналізацыя, на алярм пачалі збягацца людзі, і палкоўнік адступіў. Спасюку ўдалося дабрацца да хаты, адкуль ён патэлефанаваў гарадзенскім журналістам, а таксама ў амерыканскую амбасаду ў Маскву. Амерыканцы параілі яму звярнуцца ў любое бліжэйшае замежнае дыпламатычнае прадстаўніцтва. Пасля гэтага бацюшка забраў жонку, трох дзяцей і вакольнымі шляхамі прыехаў у Гродна.

Святар скіраваўся адразу ў Консульства Польшчы, каб папрасіць часовага прытулку. Аднак, як патлумачыў консул Сільвестр Шостак, гэта было немагчыма, бо Спасюк не з'яўляецца грамадзянінам Польшчы.

Святар у царкоўным адзенні, з двума сярэбранымі крыжамі, але закаваны ў кайданкі пад нумарам 9369 на руках, доўга і цярпліва чакаў рашэння сваёй долі каля Консульства. Побач стаялі жонка і малыя дзеці.

Потым прыехалі людзі ў цывільным. Не прадстаўляючыся, яны паспрабавалі адразу пацягнуць айца Яна ў машыну. Аднак праваабаронца з БХК Алег Сідзігаеў рашуча прыпыніў гэтае незаконнае самаўпраўства. Тады супрацоўнікі крымінальнага вышуку, сярод якіх назваў сябе толькі Іван Шпарко, па надуманых прычынах забралі пашпарт святара.

Увесь гэты час Ян Спасюк знаходзіўся ў кайданках. І толькі ў прысутнасці высокага міліцэйскага чыну святар ужо напрыканцы гэтай акцыі быў вызвалены ад ганебнага атрыбута.

Суботу і нядзелю Ян Спасюк з сям'ёй хаваўся ў Гродне. Вяртацца ў Пагранічны ён збаяўся, паводле ягоных словаў, міліцыянты сказалі яму канкрэтна: «Мы цябе ўсё роўна пасадзім».

У панядзелак айцец Ян правёў прэс-канферэнцыю для журналістаў, дзе выказаў уласнае меркаванне наконт здзейсненай міліцэйскай акцыі. Спасюк збіраецца ісці незалежным кандыдатам на выбары ў Палату Прадстаўнікоў, таму ён лічыць, што ўлады спрабуюць яго запалохаць. Аднак адступаць святы айцец не збіраецца.

Святар звярнуўся ў многія амбасады, праваабарончыя і міжнародныя арганізацыі з просьбай забяспечыць гарантыі бяспекі яму і ягонай сям'і.

«Тэрыторыі Беларусі я не пакіну, - запэўніў Ян Спасюк. - Хочуць пасадзіць, хай садзяць. Я сказаў супрацоўнікам спецслужбаў: «Вам засталося толькі пусціць кулю ў лоб».

**Па л Мажэйка**

**На здымку: на Яна Спасюка надзяваюць кайданкі**

## Альтэрнатыва вертыкалі

**«Мясцовае самакіраванне на Беларусі - традыцыі і сучаснасць. Досвед іншых краінаў, перспектывы рэфармавання». «Круглы стол» з такой назвай адбудзецца ў сераду, 2 жніўня, у Гродне.**

Ладзілі «круглы стол» Гарадзенская філія Фонда імя Льва Сапегі ды Беластоцкі Цэнтр грамадскай адукацыі «Польшча-Беларусь». Удзельнікамі імпрэзы, якая стала вынікам шэрагу навучальных семінараў, былі прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў вобласці.

Падчас «круглага сталу» была распрацаваная рэгіянальная канцэпцыя па рэфармаванню і ўсталяванню мясцовага самакіравання.

## Ці будзе ўзімку чарка са скваркаю?

**Пакуль «труженікі сяла» насуперак замаразкам, дажджу і ўраганам з усяе моцы б'юцца за ўраджай, ворагі народу прарочаць узімку картковую сістэму й чэргі за хлебам. Каб даведацца пра сапраўдны стан рэчаў, ПАГОНЯ звярнулася з традыцыйным тэлефонным апытаньнем да гарадзенцаў: *Ці турбуюць Вас магчымыя перабоі з прадуктамі й што асабіста Вы робіце, каб не галадаць узімку?***

**Ірына Данілоўская, настаўніца:**

- Голаду ня будзе пакуль працуюць фермеры ды й проста звычайныя людзі на вёсцы, лецішчах. Акрамя таго, у нас ёсьць вельмі заможныя калгасы - Абухава, Кастрычніцкі, Дзяншчыкова - яны нас выцягнуць. У іхных крамах усё сьвежае, смачнае, кілбасы ў асартымэнце. Мо, на ўсходзе й будзе голад, а Гарадзеншчыне яшчэ і Захад дапаможа.

**Ігар Банцар, прадпрымальнік:**

- У нас у Гародні голаду ня будзе - мяжа з Расеяй далёка (усё ня вывязуць).

**Ян Дамброўскі, намеснік дырэктара СП «Свідо»:**

- Голаду не баюся. Ёсьць жа рэзэрвы, нармальнае дзяржаўнае планаваньне. Саюз з Расеяй павінен паўплываць. Вы толькі не падумайце, што я маскаль закаранелы - мне гэты саюз таксама не ўсьміхаецца. Так, крызыс будзе, інфляцыя, дабрабыт народа зьнізіцца, але голаду ня будзе. Што я асабіста для гэтага раблю? Спраўна плачу падаткі.

**Цеця, шкаляр, перайшоў у шостую клясу:**

- А мы зь сябрамі рыбы насушылі, прадаваць будзем. А калі есьці хочацца - па гародах можна палазіць, агуркоў, памідораў якіх пазьбіраць. Во, у гэтым годзе вішнямі аб'еліся! Грушаў шмат будзе...

**Мечыслаў Касьцюк, старшыня камітэта па сельскай гаспадарцы й харчаваньню Гарадзенскага аблвыканкама:**

- З чаго б гэта нам галадаць? У нас ураджайнасьць на 8 цэнтнераў большая чым у мінулым годзе. Закупаем дызельнае паліва, у запасе ёсьць 3-4 дні. Праўда, надої пакуль мінусуюць, але выпаць у добрым стане - паступова выйдзем на станоўчыя паказчыкі...

**Марыя Іванаўна, пэнсіянэрка:**

- Вам, маладым, працаваць больш трэба! Я вось ужо 12 банак агуркоў паставіла! Садавіны, гародніны хапае - у мяне ўсё на лецішчы расьце. Старым жа шмат і ня трэба. Бульба свая, кавалак сала набудзем - зіму пераживем.

**«Закрома Родины» аглядала**
**Юлія Дарашкевіч**

## Нелегалы кантралююць памежнікаў

**Спробу незаконнага пераходу групай нелегальных мігрантаў беларуска-польскай мяжы спынілі днямі памежнікі Гарадзенскага атрада.**

Як паведамілі ў прэс-службе Дзяржаўнага камітэта памежных войскаў Беларусі, на адным з участкаў, кантралюемых Гарадзенскім памежатрадам, памежнікі затрымалі групу з 26 грамадзянаў Афганістана, шасці в'етнамцаў і двух кітайцаў. Вядзецца разбор.

Варта адзначыць, што за мінулы месяц гэта ўжо чацвёртая спроба вялікіх групаў нелегальных мігрантаў перасячы мяжу рэспублікі на польскім накірунку. Раней падобная актыўнасць назіралася на беларуска-украінскай мяжы. Пераразмеркаванне намаганняў нелегальных мігрантаў памежнікі звязваюць з той абставінай, што нядаўна на беларуска-польскай мяжы распачаўся дэмантаж электрасігналізацыйнай сістэмы, і зараз парушальнікі спрабуюць высветліць, ці змянілася ад гэтага эфектыўнасць аховы мяжы.

**Вячаслаў Будкевіч**

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Усебеларускі З'езд рашуча выступіў за незалежнасць і суверэнітэт беларускай дзяржавы

**29 ліпеня ў Менску адбыўся Усебеларускі З'езд за незалежнасць. У яго працы прынялі ўдзел 1 360 дэлегатаў, якія прадстаўляюць усе рэгіёны краіны, шматлікія замежныя госці, амбасадары Украіны, Польшчы, Чэхіі, Францыі, супрацоўнікі іншых амбасадаў, дэпутаты замежных парламентаў. Свае прывітанні З'езду накіравалі: прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел, старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 13-а склікання Сямён Шарэцкі.**

З уступным словам на адкрыцці З'езду выступіў славуты беларускі паэт і публіцыст Генадзь Бураўкін. Ён нагадаў, што галоўная мэта форуму - «адлюстраванне адносінаў беларускага народа да дзяржаўнасці рэспублікі». Галоўнае, што, паводле ягоных словаў, трэба было зрабіць дэлегатам З'езду, - гэта прыняць Акт Незалежнасці краіны, у якім будзе адлюстравана воля народа.

Час правядзення форуму, як лічаць дэлегаты З'езду, абраны невыпадкова, паколькі менавіта сёння існуе вельмі сур'ёзная небяспека паглынання краіны Расеяй і знішчэння беларускай дзяржаўнасці. І асноўныя дакладчыкі - акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, паэт Ніл Гілевіч, экс-прэм'ер Міхаіл Чыгір ды іншыя вядомыя ў краіне грамадскія і палітычныя дзеячы - акцэнтавалі ўвагу на неабходнасці захавання незалежнасці Беларусі.

Пасля шматгадзіннага абмеркавання ўдзельнікі Усебеларускага З'езду прынялі Акт Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. За яго прагаласавалі ўсе дэлегаты форуму. Устрымаўся толькі адзін чалавек.

Такім чынам, форум, які доўга рыхтаваўся і пра каторы так многа гаварылі, адбыўся. Яго дэлегаты высока ацэньваюць значнасць Акта Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і не сумняваюцца ў законнасці яго прыняцця.

**Уладзімір Глод**

# Акт Незалежнасці Беларусі

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езду, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі, усведамляючы адказнасць за будучыню краіны; нагадваючы, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый; грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

**ЗАЯЎЛЯЕМ:**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты - свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасці не дапушчальныя і павінны карацца, як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і без'ядзерная дзяржава.

Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў, і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны альбо скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асобаў і органаў, нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай стала дамова аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расеяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі беларускіх уладаў, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краінаў свету. Мы - за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету. І асабліва з суседзямі: Расеяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем становіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну.

Незалежнасць - гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях нашай краіне ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езду,

**СВЕДЧЫМ**

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сімваламі - бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня»;

**АБВЯШЧАЕМ**

незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

**ПРЫЗНАЕМ**

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

**ЗАКЛІКАЕМ**

усіх грамадзянаў Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэяў Акта Незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны,

парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаваў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Жыве Беларусь!

**Прынята Усебеларускім З'ездам 29 ліпеня 2000 года ў Менску**

---

**ПАГОНЯ звярнулася да вядомых палітыкаў з просьбай пракаментаваць значэнне З'езду і Акта Незалежнасці.**

**Станіслаў Багданкевіч:**

- Мы яшчэ раз нагадалі пра тое, што беларускі народ не жадае губляць сваю дзяржаву.

***- Ці прыслухаецца ўлада да голаса народа?***

- Не можа не прыслухацца. Усё ўзаемазвязана, і ўлада не ў стане існаваць асобна ад грамадства. Напрыклад, трэцяга ліпеня А. Лукашэнка прамаўляў па-беларуску.

Я прытрымліваюся такіх поглядаў: нам патрэбны добрасуседскія адносіны з усімі, але, перш за ўсё, з Расеяй. Там самыя танныя энерганосьбіты, там рынак збыту нашых, скажам наўпрост, не самых лепшых, у параўнанні з сусветнымі стандартамі, тавараў. Калі б я быў ва ўладзе, я б праводзіў менавіта такую палітыку, і адначасова, крок за крокам, дамаўляўся б з Захадам пра інвестыцыі, фінансаванне і г.д.

**Вячаслаў Сіўчык:**

- У 2001 годзе наступіць вызначальны момант. Калі прэзідэнтам Беларусі будзе абраны А.Лукашэнка ці да яго падобны дзеяч, то адбудзецца поўная інкарпарацыя нашай краіны ў склад Расеі. Гэта непазбежна прывядзе да падзення жыццёвага ўзроўню народа, да падаўлення ягонай свабоды, што выкліча стыхійны супраціў. Тады ўжо ніхто не здолее ўтаймаваць стыхію, у тым ліку і апазіцыя. Адзіны магчымы цывілізаваны шлях - гэта той, які ідуць нацыянальныя дэмакратычныя сілы, што праводзяць Усебеларускі З'езд за незалежнасць. Пакуль шанцы яшчэ ёсць.

***- Ці існуе магчымасць таго, што Расея не пойдзе ў накірунку ўмацавання імперскіх памкненняў?***

- Ніякай. У Расеі будуецца дзяржаўны лад, ідэнтычны беларускаму. Напрыканцы 2001 года ўсё вырашыцца.

***- А якія шанцы ёсць у нацыянальнай дэмакратыі?***

- Шанец - у вылучэнні адзінага кандыдата, які задаволіць не толькі апазіцыю, але і наменклатуру. Самае цікавае, што ад страты суверэнітэту згубяць больш за ўсё чыноўнікі, міліцыянты. У выніку інкарпарацыі ў Расею да нас адразу прышлюць рускіх чыноўнікаў, тыя адхіляць ад улады мясцовую наменклатуру. А міліцыянтаў накіруюць гасіць канфлікты на Каўказ. Таму патрэбная адзіная агульная кандыдатура апазіцыі і наменклатуры.

***- Такая кандыдатура ёсць у залі З'езду?***

- Пакуль няма.

**Валеры Шчукін:**

- З'езд прадэманстраваў, што народ не прымае палітыкі, якую праводзяць улады.

***- Улада на гэта адрэагуе?***

- Не. Існуе два спосабы прымусіць уладу: аўтаматам і выбарчым бюлетэнем. Як чалавек ваенны, я супраць узброенай барацьбы.

***- То можа ўлада створыць прымальныя ўмовы выбараў?***

- Не створыць.

**Працяг тэмы на стар. 5**

# Незалежнасць Беларусі ёсць і будзе

**Унясеннем нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга, выкананнем Гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Беларускай Народнай Рэспублікі пачаўся ўрачысты сход, прысвечаны Дню аднаўлення Незалежнасці краіны ў Палацы культуры «Юнацтва». У прэзідыум былі запрошаны вядомыя ў вобласці людзі, якія шмат зрабілі для аднаўлення суверэнітэту рэспублікі. Падрыхтавалі і правялі вечарыну дэмакратычныя арганізацыі Гродна, якія ўваходзяць у склад Каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва». Усяго ў мерапрыемстве ўдзельнічалі каля 500 чалавек.**

Сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, старшыня Каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва» Сямён Домаш у сваім выступленні прааналізаваў шлях краіны да Незалежнасці, узгадаў імёны патрыётаў даўніх і блізкіх часоў, асэнсаваў гістарычныя падзеі, якія мелі прамы ўплыў на станаўленне дзяржаўнасці Беларусі.

Асабліва было падкрэслена, што цяпер краіне як ніколі пагражае страта суверэнітэту. Да гэтага вядзе палітыка пануючага рэжыму, які збанкрутаваў і палітычна, і эканамічна, раскалоў нацыю, знішчае нацыянальныя здабыткі - мову, сімвалы, святы.

Сямён Домаш выказаў сваё бачанне заходаў, якія трэба зрабіць дэмакратычным сілам краіны, каб вярнуць Беларусь у еўрапейскі цывілізаваны свет, перамагчы галечу і сацыяльна-эканамічны заняпад, стварыць умовы для годнага жыцця кожнага грамадзяніна рэспублікі.

На сходзе выступілі: рэдактар газеты ПАГОНЯ і дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Мікола Маркевіч, старшыня гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Сяргей Мальчык, старшыня Гарадзенскай арганізацыі БСДП (НГ) Міхась Патрэба, старшыня гарадской філіі БСДГ Віктар Сазонаў, сябра сойму Цэнтральнай Рады Маладога Фронту Сяргей Антусевіч.

У сваіх выступленнях яны акцэнтавалі ўвагу на прыняцці вышэйшым заканадаўчым органам краіны Дэкларацыі «Аб дзяржаўным суверэнітэце»; станаўленні новай беларускай нацыянальнай палітычнай эліты; няздольнасці кіруючай «вертыкалі» рэальна палепшыць дабрабыт насельніцтва. Быў падкрэслены хрысціянскі пачатак беларусаў, іх сумленнасць і разважлівасць, тое, што цяперашнія 25-гадовыя юнакі і дзяўчаты паспелі глынуць паветра адноснай свабоды пачатку 90-х і цяпер ніколі гэтае пакаленне не збочыць са шляху свядомага змагання за лепшую долю кожнага беларуса.

Арганізатараў прыемна ўразіла шматлюднасць мерапрыемства. Сярод прысутных было многа актывістаў дэмакратычнага руху мінулых гадоў, а таксама моладзі.

Вечар закончыўся святочным канцэртам, які быў з цеплынёю ўспрыняты ўдзельнікамі сходу.

**Антон Лабовіч**

# Святкавалі днём, святкавалі і ноччу

Каля дзесяці сцягоў лунала над самымі высокімі будынкамі Гродна раніцай 28 ліпеня. Такім чынам мясцовыя патрыёты ўначы нагадалі гараджанам пра 10-годдзе Незалежнасці Беларусі. Самае вялікае бел-чырвона-белае палотнішча было замацавана на расцяжках паміж шматпавярховымі дамамі па вуліцы Урублеўскага. Толькі каля 10-ці гадзін раніцы міліцыянтам з дапамогай пажарных удалося зліквідаваць «крамольныя» сімвалы незалежнасці з вуліц горада. 27 ліпеня ў Гродне адбыліся два пікеты, наладжаныя БНФ «Адраджэньне», да якіх далучыліся сябры БСДП (НГ) і БСДГ. Пікеты, прымеркаваныя да дня Незалежнасці, адбыліся таксама ў Воранаве, Ваўкавыску.

**Уладзімір Кавалёў**

# Вік з Грыбам пераконвалі Домаша

**26 ліпеня старшыня Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Менску Ханс-Георг Вік сустракаўся ў Гродне з першым намеснікам старшыні аблвыканкама Уладзімірам Саўчанкам і старшынём гарадскога выканаўчага камітэта Анатолем Пашкевічам. Дыпламата суправаджалі ў паездцы адказны працаўнік місіі Мішэль Рывалье і вядомы беларускі палітык Мечыслаў Грыб.**

Кіраўніцтва абласной і гарадской «вертыкалі» запэўніла гасцей, што яна прыкладзе ўсе намаганні, каб маючыя адбыцца выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу адпавядалі патрабаванням Выбарчага кодэксу і міжнародным нормам.

Зусім па-іншаму ставяцца да выбарчага марафону, які пачаўся, прадстаўнікі рэгіянальных дэмакратычных палітычных і грамадскіх арганізацыяў, аб'яднаных у сваёй большасці ў Каардынацыйным камітэце «Гродзенская ініцыятыва». Прыводзіліся факты, што ў працоўных калектывах спешна і негалосна, шляхам збору подпісаў, вылучаюцца людзі ў склад выбарчых камісіяў. За ўсім гэтым стаіць выканаўчая ўлада. Ужо цяпер зразумела, што прадстаўнікі апазіцыйных сілаў у гэтыя спісы не трапяць.

Неадназначна паставіліся прысутныя да магчымасці ўдзелу ў назіранні за выбарамі. Сапраўды, нядаўні Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі прыняў адназначнае рашэнне: у выбарах не ўдзельнічаць. Але наконт таго, каб не ўдзельнічаць ў назіранні, дакумента не прымалі, падкрэсліў Мечыслаў Грыб.

Ханс-Георг Вік, адказваючы на пытанне, прааналізаваў магчымую рэакцыю Захада на наступныя варыянты: беларуская апазіцыя поўнасцю не ўдзельнічае ў выбарах і назіранні, удзельнічае толькі ў назіранні, змагаецца пры актыўным назіранні за дэпутацкія мандаты. Ад палітычнай мудрасці апазіцыйных беларускіх палітыкаў залежыць рэальны суверэнітэт Беларусі, лічыць дыпламат. Як паведаміў старшыня Каардынацыйнага камітэту «Гродзенская ініцыятыва», сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямён Домаш, рашэнне па ўдзелу ў назіранні будзе прынята пазней.

**Антон Лабовіч**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Не стой пад балконам - небяспечна для жыцця!

**7 жніўня жыхары трох дамоў NN 43, 45 і 47 па вуліцы Дамброўскага ў Гродне маюць намер правесці пікеты ля будынкаў абласной і гарадской адміністрацыяў. Мэта, якую ўказалі ў заяве арганізатары, - «прыцягнуць увагу мясцовых органаў улады на праблему аварыйнага становішча» названых вышэй дамоў. Мяркуецца, што колькасць удзельнікаў будзе не менш за 200 чалавек. У заяве таксама пададзеныя тэксты лозунгаў: «Падтрымаем роднага прэзідэнта А.Р.Лукашэнку супраць мафіёзна-карумпаваных крымінальных чыноўнікаў аблвыканкама і гарвыканкама, якія парушаюць нашыя правы, законы ды Канстытуцыю РБ», «Да адказнасці Ул.Чорнага, Ю.Масквічова і І.Кузміча»**.

Усе тры дамы ўваходзяць у склад ЖБК N 41. У іх жыве болей за 400 сем'яў. Дамы былі пабудаваныя Гарадзенскім ДБК у 1974 годзе. Гэта значыць, што ім ужо болей за чвэрць веку. Здаецца, не такія і старыя, аднак ужо не першы год набіраюцца скаргі тутэйшых жыхароў на тое, што выходзяць са строю сістэмы водазабеспячэння, працякаюць дахі, прычым мокнуць не толькі верхнія паверхі. А апошнім часам літаральна адвальваюцца балконныя перагародкі, зробленыя з бетону. Гэта не жарт, такіх балконаў-інвалідаў у доме N 43 ужо шэсць. У верасні мінулага года дом агледзілі спецыялісты інстытута Гроднаграмадзянпраект і ў выніку абследавання зафіксавалі, што «за час эксплуатацыі дома не праводзілася ніводнага прафілактычнага рамонту, хаця неабходнасць у гэтым з'явілася даўно: састарэла і «прадзіравілася» пакрыццё даху і парапетаў, ахоўныя фартухі ды стокі з ацынкаванай бляхі прыржавелі, заладка стыкаў панэляў вонкавых сценаў на асобных участках адвалілася, швы працякаюць і г.д.

Шматлікія звароты жыхароў дамоў ЖБК N 41 у адпаведныя службы гарвыканкама з просьбай аб капітальным рамонце дамоў заставаліся без адказу, дакладней, адказы былі. Да прыкладу, начальнік жыллёвага рамонтна-эксплуатацыйнага ўпраўлення Ленінскага раёну г.Гродна Анатоль Літвін нагадаў грамадзянам, што яны ўваходзяць у кааператыў, а, значыцца, самі павінны заказваць абследаванне становішча сваіх дамоў і самі праводзіць капітальны рамонт. Напэўна, гэта было б слушна ў выпадку сумленнай дамовы дзяржавы са сваімі грамадзянамі пры продажу ім жылля. На самой справе ў гэтай здзелцы дзяржава ўдала падманула сваіх грамадзянаў.

У айчынных будаўнічых нарматывах, як не дзіўна, адсутнічае паказчык амартызацыйнага зносу дамоў БПД (буйнапанэльнага домабудавання), які як раз і абазначае тэрмін іх бяспечнай эксплуатацыі. Аднак нашыя чыноўнікі самі выдумалі гэты нарматыў - 0,7 працэнта. Чаму менавіта столькі? Таму што пры такім нарматыве тэрмін эксплуатацыі дамоў вызначаны ў 140 гадоў. На самой справе, - як сцвярджаюць прафесіяналы будаўнічай справы, навукоўцы, ён значна меншы, і роўны 30 гадам. Тлумачэнне гэтаму тэрміну наступнае. Самыя галоўныя паказчыкі якасці будаўніцтва - надзейнасць і даўгавечнасць. Што мы маем у дамах БПД? Самі панэлі - вырабы супертрывалыя, аднак злучаюцца яны пры пасрэдніцтве зваркі металічных закладных дэталяў. Потым гэтыя швы паміж панэлямі заладжваюцца, аднак далёка не заўсёды ізаляцыю ад вільгаці і паветра можна лічыць 100 працэнтнай. Сучасная будаўнічая навука лічыць, што глыбіня карозіі ўсяго ў адзін мікрон скарачае жыццё дома на адзін год. Слой пластавай іржы ў закладных дэталяў дома N 43, як вызначылі спецыялісты, дасягае 6 міліметраў. Гэта вельмі небяспечна для ўсёй канструкцыі. Таму і абвальваюцца кавалкі балконаў, пакуль, на шчасце, толькі яны. Тэарэтычна ж цяпер ніхто не можа гарантаваць, што такі дом аднойчы (асабліва, калі дапаможа нейкі штуршок) не складзецца, як картачны домік.

Трэба сказаць, што ад буйнапанэльнага домабудавання даўно ўжо адмовіліся ва ўсім свеце. Акрамя яго сумнiўнай надзейнасці, яно заганнае ў плане сацыяльнай якасцей: металічны каркас арматуры, што пранізвае ўсе панэлі, стварае не лепшы клімат для чалавека; убогая планіроўка, якую да таго ж нельга змяніць па асабістым жаданні, ды іншае. Тым не менш, нашыя дзяржаўныя горадабудаўнікі працягваюць «ашчаслiўліваць» насельніцтва галоўным чынам такімі дамамі, уводзячы яго ў зман з прычыны даўгавечнасці. І адмаўляюцца дапамагаць з капітальным рамонтам старых, спасылаючыся на адсутнасць сродкаў, альбо спрабуючы зваліць усе клопаты на плечы саміх жыхароў.

Не хочацца сеяць паніку, аднак сітуацыя з дамамі БПД, пабудаванымі ў канцы 60-х - пачатку 70-х гадоў, можа стацца вельмі сур'ёзнай. Ва ўсялякім выпадку спецыялісты праектных інстытутаў настойліва рэкамендуюць «праводзіць паэлементнае абследаванне канструкцыяў». Гэта значыць, часовае (і хаця б выбарчае) адсяленне жыхароў з дамоў 30-гадовай даўнасці, раскрыццё стокаў, замер іх трываласці. Праз 10-15 гадоў можа быць надта позна.

Што тычыцца дахаў, якія працякаюць, то старшыня ЖБК N 41 Уладзімір Філімонаў (сам прафесійны будаўнік) упэўнены, што гэта не такая ўжо невырашальная праблема, як яе спрабуюць падаць чыноўнікі гарвыканкама. І грошы можна знайсці. Для гэтага ж мы выплочваем аднапрацэнтны абавязковы падатак на ўтрыманне і рамонт жылля. Акрамя таго, адно з апошніх распараджэнняў Савміну гаворыць пра тое, што з бюджэтных сродкаў, якія адпускаюцца на капітальнае будаўніцтва, 20 працэнтаў трэба выдзяляць на падтрыманне ў належным стане старога фонду. Усё можна зрабіць, калі думаць пра дабрабыт грамадзянаў свайго гораду.

Арганізатары пікету спадзяюцца, што ў слушных патрабаваннях іх падтрымаюць жыхары іншых дамоў, якія церпяць ад аналагічных праблемаў і ўсведамляюць небяспеку кансервацыі свайго жылля.

**Ніна Палуцкая**



**З моманту зьнікненьня нашага калегі Дзьмітрыя Завадскага мінула:**

# 27 дзён

Мы патрабуем ад уладаў тэрміновага расьледаваньня абставінаў гэтай справы. Мы заклікаем супрацоўнікаў праваахоўчых ворганаў і спэцслужбаў, а таксама людзей добрай волі прыкласьці ўсе намаганьні дзеля ўратаваньня журналіста.

# Кішэчная палачка пачувае сябе вальготна

**З 27 ліпеня 2000 года купацца ў рацэ Нёман і возеры Юбілейнае з-за значнага перавышэння бактэрыяў кішэчнай палачкі ў гэтых вадаёмах забаронена. Такую пастанову выдаў Гарадзенскі гарадскі Цэнтр эпідэміялогіі і гігіены.**

Аднак па-ранейшаму рака Нёман і возера Юбілейнае, у прастанароддзі Юбілейка, застаюцца ўлюбёнымі месцамі адпачынку гараджан. На трох пляжах гораду шыльды з надпісам «Купанне забаронена» бачаць адзінкі, што ходзяць на гэтыя адмысловыя «добраўпарадкаваныя» пляжы. Астатнія купаюцца ў больш набліжаных да прыроды месцах. А наконт надпісу «Купанне забаронена» ніводны з адпачываючых так і не патлумачыў, у сувязі з чым яно забаронена.

Адныя ківаюць галовамі і кажуць, што болей купацца тут не будуць. Іншыя простымі, «панятнымі» словамі пасылаюць куды далей, каб не перашкаджалі ім адпачываць.

- Ганяць парушальнікаў - гэта не наша справа! - кажа Марына Коршун, доктар-гігіеніст аддзела камунальнай гігіены Гарадзенскага гарадскога Цэнтра эпідэміялогіі і гігіены. - Мы ваду даследавалі, шыльды размясцілі. Астатняе нас не тычыцца.

Відавочна, што так думаюць не толькі ў гэтай паважанай установе.

**Юля Коцкая**

# Тым, хто любіць жывёлаў

Як мы паведамлялі, у Гродне ствараецца грамадская арганізацыя «Таварыства аховы жывёлаў». Усіх, хто можа чымсьці дапамагчы ў стварэнні гэтай арганізацыі, запрашаем кожны аўторак з 19 гадзіне ў памяшканне турклубу па адрасе: вул.Лідская, 25. Кантактны тэлефон 47-02-47, паклікаць Юру.

Першае, што мы можам зрабіць для бяздомных жывёлаў - паспрабаваць знайсці ім добрых гаспадароў. Просім усіх, хто можа ўзяць у сваю хату кацяня, шчаня ці дарослага ката або сабаку і тым самым выратаваць жывёлу ад беспрытульнага, галоднага жыцця на сметніках і хуткай смерці, тэлефанаваць на нумар 44-92-79, спадарыне Раісе Іванаўне.

Працягваецца збор подпісаў пад зваротам да старшыні гарвыканкама А.М. Пашкевіча, у якім патрабуецца, каб улады неадкладна заняліся праблемай жорсткага стаўлення людзей да жывёлаў і, у прыватнасці, спынілі садысцкія забойствы сабакаў і катоў у нашым горадзе (тэкст звароту надрукаваны ў нашай газеце за N22 ад 22 чэрвеня 2000 года). Заклікаем усіх, хто адчувае боль і сорам за тое, што ў нашым горадзе робяць з жывёламі, паставіць свой подпіс пад гэтым лістом.

**Ініцыятыўная група «Таварыства аховы жывёлаў»**

# Абразы астраханскіх брыгадзіраў замест чырвонай ікры

**Сёлета 100 студэнтаў ГрДзУ і Гарадзенскага вучылішча мастацтваў па лініі Лігі добраахвотнай працы паехалі на заробкі ў Астрахань (Расея). 10 чалавек вярнуліся адразу, пасля некалькіх дзён побыту ў жахлівых бытавых і антысанітарных умовах. Астатнія вымушаны адбываць свой тэрмін, у сувязі з падпісаннем кантракту і адсутнасцю грошай на дарогу дахаты.**

«Мы ехалі, канешне, працаваць, - распавядае Андрэй В., студэнт ГрДзУ, -але нам абяцалі і Каспійскае мора, і вандроўку па Волзе, і персікі, і ікру... А ў выніку мы атрымалі жахлівае харчаванне: на сняданак -манка з камякамі, на абед -падфарбаваны таматам суп і поўная адсутнасць пітной вады. У дадатак - нахабства і славесныя абразы мясцовых брыгадзіраў. І ўсё гэта - за 10 расейскіх рублёў у дзень, прыкладна 34 рублі на нашы грошы. Нас і нашага кіраўніка проста падставілі. Мы - не быдла, і такое трываць не пажадалі!»

**Юля Коцкая**

# Кепскім тэлефаністам кабель перашкаджае

Паважаная рэдакцыя!

Ужо больш за 20 год таму было абяцана поўнасцю тэлефанізаваць вёску Пракаповічы Індурскага сельскага савету Гарадзенскага раёна. І людзі з нецярпеннем чакалі... У 1999 годзе было вырашана пракласці падземны кабель, бо паветраная лінія цалкам прыйшла ў занядбанне. Зрабілі падрыхтоўчую працу. І ў лістападзе, літаральна за 2-3 дні да наступлення маразоў, загадалі выкапаць канавы пад кабель. Раскапалі ўсю вёску і пачалі класці кабель, але яго на ўсіх не хапіла. І так ужо на працягу васьмі месяцаў напаўзаваленыя канавы зіхацяць пустатой. Як гэта называецца? Ці можна так здзекавацца з людзей?

У горадзе заўсёды для тэлефанізацыі хапае кабеля. Чаму ж для вёскі яго не хапае?.. А казалі, ды і зараз кажуць, што вёску трэба прыроўніваць да горада. Аднак на практыцы атрымліваецца ўсё інакш.

Ці не лепей было б давесці справу да канца і атрымліваць грашовыя даходы ад тэлефонаў?..

Ад імя жыхароў в.Пракаповічы

**Станіслаў Салікоўскі**

# Жылібер супраць наркотыкаў

**Чатыры гадзіны 30 ліпеня доўжылася акцыя «Моладзь супраць наркотыкаў» у гарадскім Парку культуры і адпачынку імя Жылібера. Нават дождж не перашкодзіў амаль дзвюм тысячам гарадзенцаў адгукнуцца на запрашэнне абласнога аддзялення грамадскага моладзевага аб'яднання «Грамадзянскі форум» пры падтрымцы фонду Counterpart Alliance for Partnership.**

Як паведаміў ПАГОНІ адказны за арганізацыю канцэрту, старшыня праўлення грамадскага аб'яднання «Таварыства абароны правоў спажыўцоў г.Гродна» Аляксей Шульга, наш абласны цэнтр стаў трэцім горадам пасля Гомеля і Магілёва, дзе былі праведзеныя аналагічныя акцыі. Гарвыканкам даў дазвол на правядзенне канцэрту. Працаўнікі аўтапарку і тралейбуснага дэпо бясплатна размясцілі ў салонах транспарту запрашэнні на канцэрт. Супрацоўнікі гарадскога наркадыспансеру і абласнога Цэнтру прафілактыкі СНІДу выступілі з кароткімі паведамленнямі аб наступствах ужывання наркотыкаў, гаротным лёсе хворых, распаўсюджанні небяспечнай для здароўя чалавека залежнасці. У канцэрце ўдзельнічалі рок-гурты з Гродна, Брэста, Менску, Барысава, Лепеля і Бярозы.

**Сцяпан Ярашчук**

# У Лідзе таксама забіваюць...

Штатны працаўнік Лідскага ЖКГ Анатоль Х. адказвае за тое, каб знішчаць тых жывёлаў, што не маюць свайго прытулку. Яму дадзены аўтамабіль ГАЗ 53, на якім ён выязджае па выкліку жыхароў і забірае сабакаў, якіх яму здаюць людзі; катоў не бярэ, але збірае тых, якія забітыя на дарозе аўтамабілямі. За чэрвень бягучага года знішчана не менш, як пяць сабакаў, у ліпені - Анатоль мае адпачынак. Ужо каля чатырох гадоў бадзяжных жывёлаў у Лідзе не вылаўліваюць і не страляюць, забіраюць толькі ад людзей. Сабраныя жывёлы вывозяцца на сметнік Гуды. Там з бетонных кругоў дыяметрам у тры метры і глыбінёй у 6-9 метраў зроблена сховішча-магільнік, закрытае зверху накрыўкай з замком. Прывезеных жывых сабакаў б'е малатком па галаве і кідае ў яму, тыя ж сабакі нават не аказваюць ніякага супраціўлення. Два сабакі, якіх трымаюць вартаўнікі сметніка, ведаюць і чуюць гук машыны гэтага самага Анатоля на даволі вялікай адлегласці ад сметніка, і ўцякаюць хто куды: адзін - у лес непадалёку, другі хаваецца пад вагончык і зрэдку гаўкае.

Шмат людзей гэта бачылі сваімі вачыма. Раней жа сабакаў і катоў па жаданні гаспадароў забівалі ў ветлячэбніцы, што знаходзіцца на вуліцы Варшаўская.

Я вельмі хацеў бы, каб мой ліст хоць трошкі змяніў нешта ў чалавечым падыходзе да лёсу братоў нашых меншых.

**Раман Ушкевіч, усяго 16 прозвішчаў**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

- Масквіч-2140 па запчастках, на хаду. Тэл. 44-45-41 (пасля 18.00).
- Аўтамабіль «IFA-50L». Стан добры. Танна. Тэл. у Скідалі 72-00-22, 99-76-93.
- Прыватызаваны надзел у в.Зарыца (18 сотак). Тэл. 33-79-95.

Дачу у в.Жылічы, побач - бярозавы гай, рэчка Нёман. Тэл. 44-39-53.

- Дом з надзелам (6 км ад г.Гродна). Танна. Тэл. 33-38-69 (з 18.00), 72-20-62 (з 9.00 да 17.00).
- Пральную машыну «Волна-2 МВ» (б/у), а таксама АОН «Веф-ТА-12». Тэл. 73-00-00 (аб. 95352).
- Тэлевізар «Электрон» (вялікі экран), б/у; пярэдні капот ад «Ford Sierra». Танна. Тэл. 2-65-60.
- Пральную машыну «Урал», дзіцячыя ракеткі для вялікага тэнісу. Тэл. 75-30-93.
- Картрыджы для 16-бітнай прыстаўкі «Sega» (па кошту 3 тыс. рублёў): Gemfire («Каштоўны агонь», прыгодніцкая ваенна-стратэгічная гульня); Mutant League Football (Мутанцкая футбольная ліга», спартыўная, амерыканскі футбол жахлівых мутантаў); Rock-N-Roll Rasing (аўтамабільныя гонкі іншапланецянаў); Ghost Busters («Паляўнічыя за прывідамі», прыгодніцкая гульня); 4-гульнёўку -Bare Knucie (Streets of Rage) «Вуліцы гневу», баявая сюжэтная гульня, вулічныя бойкі; Caesar's Palace (азартныя гульні ў казіно: рулетка, косці, лато, 21 ачко, «аднарукі бандыт», відэапокер, скачкі, латарэя); Sonic-1 (прыгодніцкая гульня); Alien-3 (прыгодніцкі касмічны баявік па матывах к/ф «Чужыя»). Да ўсіх гульняў прыкладаюцца іх апісанні, коды, паролі, сакрэты, парады, гулнёвыя прыёмы. Альбо мяняю любы з гэтых картрыджаў на: The Addams Family, Chakan, Haunting (starring Polterguy), Technoclash, Mega-Lo-Mania, Gargoyles, Worms, Super Hydlide, Mutant League Hockey, Asterix and the Power of Gods, Castlevania Bloodlines, Batman Forever, The Faery Tale Adventure. Іншых не прапаноўваць. Тэл. 75-44-70.
- Чахол для гітары; шары мужчынскі касцюм (48/182), чорны (52/176); рукзачок «Кенгуру»; рогі лася; драўляныя лыжкі, б/у. Танна. Тэл. 33-79-95.

Халадзільнік «Снайге-15Е» (б/у), а таксама шыны і лабавое шкло ад «Масквіча-2140». Тэл. 44-39-70.

- Батарэі, фотапавелічальнік, фотаўспышка, два аднаспальныя ложкі. Тэл. у Скідалі 96-5-51.
- Калонкі «Вега-АС-35-105-1». Тэл. 73-00-00 (аб.95352).
- Дробную бульбу. Тэл. 44-69-03.
- Хамякоў-альбіносаў. Кошт - 500 рублёў. Тэл. 31-15-83.

## КУПЛЮ

- Старую швачную машыну «Singer». Тэл. у Пінску 33-05-35.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

- Настольную лямпу, новую альбо б/у, абавязкова - у працоўным стане, невысокую, з выключальнікам, зручную ў карыстанні. Тэл. 6-69-65 (пасля 17.00).
- Факсімільнае выданьне Статуту ВКЛ 1588 году, граматыку Б.Тарашкевіча, кнігу «Летапісы і хронікі» зь серыі «Беларускі кнігазбор». Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Металічны абруч для заняткаў гімнастыкай, не абавязкова новы. Танна. Тэл. 75-44-70 (запрасіць Святлану).

- Фоташтатыў. Тэл. 33-59-87.

## МЯНЯЮ

- Дзвюхпакаёвую кватэру на трэцім паверсе ў г.Барысаў на двюхпакаёвую кватэру ў г.Гродна. Тэл. у Барысаве 3-06-88 (паклікаць Сяргея).
- Дзвюхпакаёвую кватэру новай планіроўкі ў Бабруйску на кватэру ў Гродна. Тэл. 2-33-74.

## ПАСЛУГІ

- Скэніраванне фотаздымкаў (камп'ютарная апрацоўка), тэкстаў, распазнаванне, набор і раздрукоўка (на лазерным, струйным ды іншых прынтарах) на IBM PC (рус., англ.). Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

- Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).
- Усё па ангельскай, лацінскай, беларускай мовах. Тэл. 33-21-83.
- Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).
- Набор тэкстаў на камп'ютары, сканіраванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.
- Ангельская мова: пераклады і кантрольныя. Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.
- Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.
- Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па метадыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. 8-017) 258-88-14.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

- Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзэнтацыі. Ліц. N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.
- Камп'ютарны набор, сканіраванне, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

## ЗДЫМУ

- Адна- ці дзвюхпакаёвую кватэру з мэбляй і тэлефонам, кошт - да 50 у.а. Пажадана ў мікраёне Вішнявец, па пр-це Я.Купалы, вул.Паповіча альбо ў цэнтры. Тэл. 72-10-86.
- Адна- ці дзвюхпакаёвую кватэру, коштам да 40 у.а. Тэл. (8-214) 36-1-05.

## РОЗНАЕ

Да ведама бацькоў вучняў беларускамоўных класаў! Па ўсіх пытаннях, якія не вырашаюцца (падручнікі, дапаможнікі на беларускай мове ды іншае) просім звяртацца ў Таварыства беларускай мовы па адрасе: 220005, г.Менск, вул.Румянцава, 13.

- Аддам кацянятаў у добрыя рукі. Тэл. 6-07-61.
- Шукаю працу на прадпрыемстве па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.
- Зьбіраем зьвесткі пра школьны самвыдат Гарадзеншчыны. Будзем удзячныя за любую інфармацыю пра бюлетэні, насьценгазэты, што выдаюцца ў навучальных установах. Пісаць па адрас: 230009, Гародня, а/с 30, ЛШЭЙплюс ці yunela@mail.ru
- Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі. Тэл. 44-39-15.

Кнігу С.Астраўца «Цэнзарскія нажніцы» можна замовіць на выставе беларускай аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі. Акрамя гэтага, на выставе з'явіліся новыя нумары часопіса «Arche»: «Arche-Скарына», «Габрэйскі нумар». Чакаем вас кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзін па адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11, 2-і паверх.

- Шукаю аднадумцаў для ўтварэння Клуба аматараў ангельскай мовы. Тэл. 44-45-41.
- Здаю пакой з мэбляй. Тэл. 6-66-96.
- Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванню падэшваў у абутак. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).
- Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць іншую інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам. Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі нарэшце знаёмстваў належаць менавіта вам, шаноўныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

## ЗНАЁМСТВЫ

- Пазнаёмлюся з прыстойным, нежанатым мужчынам, які не злоўжывае тытунем і алкаголем. Пра сябе: 35/160/54, сур'ёзная, але з пачуццём гумару. Пісаць: 230009, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта КН N043242.
- Надзвычай энергічны, далікатны, імпазантны мужчына бальзакаўскага ўзросту, рост якога 176 см, жадае пазнаёміцца з прыемнай ва ўсіх адносінах жанчынай да 40 гадоў. Хатні адрас: 230026, г.Гродна-26, вуліца Томіна, 16-7066 (Віктар Дзмітрыевіч); пажадана захапіць з сабою пашпарт.
- Хлопец (25/178/70) пазнаёміцца з прывабнай дзяўчынай (раён вул.Гая, Фамічова, Пестрака, Кляцкова, пр-ту Я.Купалы). Пісаць: 230004, г.Гродна, аддзяленне сувязі N 4, да запатрабавання, прад'яўніку ваеннага білету НБ N3720729.
- Мужчына, 31 год, жыллём і матэрыяльна забяспечаны, пазнаёміцца з прывабнай, стройнай дзяўчынай да 27 гадоў. Пажадана фота. Пісаць: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, прад'яўніку пашпарта VДР N561062.
- Сімпатычны малады чалавек 25 гадоў (вышэйшая адукацыя) пазнаёміцца з сур'ёзнай дзяўчынай ці жанчынай да 45 гадоў. Пісаць: 230005, г.Гродна-5, а/с 99.

## ВІНШАВАННІ

- Віншую дарагога і любімага сябра **Андрэя Севярына** з Днём нараджэння. Жадаю ад шчырага сэрца моцнага здароўя, поспехаў у каханні і ўсяго найлепшага.

*З павагай, Кацярына.*

## СПАЧУВАННІ

- **Глыбока спачуваем з нагоды заўчаснай смерці Сяргея Іванавіча Басюка, нашага вернага сябра і надзейнага паплечніка. Ён марыў аб вольнай, квітнеючай і шчаслівай Беларусі і рабіў для гэтага ўсё магчымае. Выказваем глыбокі жаль і шчырае спачуванне бацькам Сяргея ў іх няўцешным горы.**

*Гарадзенская рэгіянальная арганізацыя БСДП «НГ»*


Рэдакцыя газеты ПАГОНЯ абвяшчае **КОНКУРС** на замяшчэнне пасады **кіраўніка аддзела рэкламы і маркетынгу.**

Абавязковыя ўмовы: амбітнасць, камунікабельнасць, досвед працы.

Даведкі па тэлефонах: 72-29-96, 72-37-14.



**Газета ПАГОНЯ Запрашае на працу** *пенсіянераў, студэнтаў, школьнікаў і часова непрацуючых - для распаўсюджвання нашай газеты!* *Тэл. 72-37-14, 72-29-96*


# Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Авальная зала.** Выстава - «Медны посуд XVIII - пачатку XX стагоддзяў». **Сенатарская зала.** Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». З 26 ліпеня дзейнічае выстава, арганізаваная Музеем Гісторыі Гарадніцы «Вобраз Маці Божай у іканапісу».

**Галерэя «У Майстра»** (вул. Кірава, 14). Сумесная выстава мастакоў.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** З 13 ліпеня дзейнічае выстава вышыванак Аляўціны Кавалеўскай пад назвай «Паэзія ў нітках».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава батыку вучняў восьмага класа сярэдняй школы N31.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Дзейнічае выстава, прысвечаная Францішку Багушэвічу. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Кінатэатр імя Пушкіна** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Кінатэатр «Усход»** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю). Штодня працуе пракат відэакасетаў, більярд, камп'ютарныя гульні.

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00 (акрамя панядзелка і аўторка). Працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпціз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

| 28 | Імя і прозвішча |
|---|---|
| | Адрас (тэлефон) |
| | Рубрыка |
| | Тэкст |

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

## ПРАЧЫТАЙ І ПРЫХОДЗЬ!

Запрашаем прыхільнікаў еўрапейскай кансерватыўна-хрысціянскай сацыяльна-палітычнай плыні, а таксама тых, хто падзяляе ідэі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ (старшыня Зянон Пазьняк) прыняць удзел у сходзе, які адбудзецца 9 жніўня у 18.30 па адрасе: г. Гродна, вул. К.Маркса, 11 (офіс БНФ "Адраджэньне").




**ТАА «Лунгвен»**

**Вы хочаце піць чыстую ваду? - Купляйце фільтры.**

А можа, Вы хочаце піць чыстую ваду і адначасова вылечыцца ад дысбактэрыёзу, язвы, гіпертаніі ды многіх іншых хваробаў, правесці прафілактыку супраць рака? - Пытайце ў аптэках «Рэліктавы крэмень-1».

**Тэлефоны для аптовых пакупнікоў (0152) 75-09-30, (01564) 333-59.**


© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

